# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК


ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 52 (826) ГОД XVI БЕЛАСТОК 26 СНЕЖНЯ 1971 г. ЦАНА 60 гр.


## ПАДВЯДЗЕМ ВЫНІКІ

Канчаецца 1971 год. Пара зрабіць гаспадарскія падлікі. Паколькі мы найбольш звязаны з вёскай, абмяжуемся да яе спраў.

7 лютага Э. Герэк аб'явіў аб кроках, накіраваных на паправу абслугі сялян, на падтрымку здаровых эканамічна індывідуальных гаспадарак.

22 сакавіка Савет Міністраў прыняў пастанову аб павышэнні скупачных цэн убойнай жывёлы і малака. У выніку за свінню гаспадар атрымлівае на 180 зл. больш, а за цяля — на 300—600 злотых. Павышэнне скупачных цэн не павяло за сабою (як гэта практыкавалася раней) павышэння рознічных цэн. Мэта павышэння — утрыманне тэндэнцыі росту жывёлагадоўлі.

14 красавіка Палітычнае Бюро ЦК ПАРП і Прэзідыум НК ЗСЛ рэкамендавалі ўраду знесці з днём 1 студзеня 1972 г. абавязковыя пастаўкі ўбойнай жывёлы, збожжа і бульбы і абаперці скупку сельскагаспадарчых пладоў на кантрактацыі. Рэкамендавана было ўтрымаць фонд развіцця сельскай гаспадаркі, пашырыць рамкі інвестыцый з гэтага фонду, рэфармаваць грунтовы падатак, паменшыць падатковую прагрэсію, падрыхтаваць навелізацыю законаў аб гаспадаранні зямлёй і ахове зямельных і лясных ужыткаў, падрыхтаваць грамадскае страхаванне для індывідуальных гаспадароў.

23 чэрвеня ў Сейм паступілі праекты законаў: аб ахове зямельных і лясных ужыткаў, праекты законнага ўпарадкавання спраў уласнасці, абароту і загаспадарвання зямлі.

4 верасня на XI Пленуме ЦК ПАРП былі прыняты Дырэктывы на VI З'езд ПАРП. Глабальная прадукцыя ўсёй сельскай гаспадаркі павінна павялічыцца ў 1971—75 гадах амаль на 18—20 працэнтаў, пагалоўе свіней — на 22—26 працэнтаў, а жывёлы — на 12—13 працэн-

Працяг на стар. 4

## ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

### МІКАЛАЙ БАРТАШУК

Мікалай Барташук ужо 21 год нязменна настаўнічае ў пачатковай школе ў Старым Ляўкове, Гайнаўскага павету. Вучыць ён моладзь класаў I—IV, а таксама старэйшыя класы беларускай і рускай мове. У 1968 годзе ён закончыў завочна Настаўніцкую студыю ў Элку.

Працяг на стар. 4





Зіма. Фота: Я. Цялушэцкі

## АБ'ЕКТ ВЫВУЧЭННЯ — БЕЛАСТОЧЧЫНА

Беласточчына — белая пляма на карце навуковых даследаванняў пры царызме і санацыі — заняла належнае ёй месца ў вывучэнні яе толькі з прыходам народнай улады. Гэта дало падставы 12 красавіка 1962 года арганізаваць Беластоцкае навуковае таварыства. У таварыстве згуртавалася значная колькасць працаўнікоў самых разнастайных галін польскай навукі. Яны аб'ядналіся ў 6 аддзяленнях, а кожнае аддзяленне вылучыла камісіі. І так, напрыклад, у склад аддзялення гуманітарных навук уваходзіць 15 камісій, у іх ліку знаходзіцца і мовазнаўчая камісія, аб якой і пойдзе гаворка ў гэтым артыкуле. Пішучы яго, я выкарыстаў абшырную і падрабязную інфармацыю, якую прадставіла мне актыўны дзеяч таварыства — др Альжбета Смулкова.

Мовазнаўчая камісія БНТ была створана ў чэрвені 1969 года. Узначаліла яе праф. др Абрэмбская-Яблонская, вядомы славіст. Навуковымі сакратарамі камісіі былі выбраны др А. Смулкова і дац. др Т. Здані цэвіч. Цяпер камісія складаецца з 22 членаў, якія працуюць у розных навуковых цэнтрах Польшчы (Беластоку, Варшаве, Кракаве, Познані, Таруні). Сярод іх пераважае маладое пакаленне вучоных, але ёсць і такія выдатныя польскія мовазнаўцы, як праф. др У. Курашкевіч, праф. др Е. Сафарэвіч, праф. др З. Сцібэр. Яны даюць прыклад маладым вучоным, дапамагаюць ім у творчых пошуках, выхоўваюць іх.

Сярод шырокага дыяпазону даследаванняў Беласточчыны членамі камісіі знаходзяцца тры вядучыя комплексы праблем.

Першы з іх — гэта шматмоўныя сувязі паміж гаворкамі Беластоцкага ваяводства. Побач са значнай колькасцю раней апублікаваных прац і артыкулаў з гэтай галіны, у апошні час падрыхтавана і здадзена ў друк калектыўная праца (13 аўтараў) пад рэдакцыяй праф. др А. Абрэмбскай-Яблонскай «Тэксты гаворак Беластоцкага ваяводства з навуковымі каментарыямі да іх». Гэта аб'ёмістая праца (14 выдавецкіх аркушаў) прадстаўляе ўсе асноўныя віды гаворак Беласточчыны (польскія, беларускія, літоўскія і пераходныя). Разгорнуты таксама даследаванні польскіх гаворак на тэрыторыі нашага ваяводства. Праблемам польска-беларускага моўнага пагранічча, польска-літоўскім і беларуска-літоўскім моўным сувязям прысвяцілі многа артыкулаў у польскім і замежным друку члены камісіі С. Глінка, С. Гасюк, Т. Здані цэвіч, У. Курашкевіч, Е. Сафарэвіч, С. Смачынскі, А. Смулкова. Мовай рускіх стараверaў, што жывуць на Беласточчыне, займаюцца І. Грэк-Пабісова і І. Марынякова.

Другі комплекс — гэта антрапанімія і тапанімія Беласточчыны, імі займаюцца М. Кандрацюк, Т. Здані цэвіч, І. Галіцкая, Ч. Лапіч, М. Врублеўскі і аўтар гэтага артыкула.

Трэці — гэта запачаткаваныя даследаванні над эвалюцыяй усходнеславянскага фальклору на Беласточчыне.

Камісія мае ў сваім карыстанні картатэку дыялектнай лексікі і фразеалогіі і абшырную бібліяграфію лінгвістычных даследаванняў, якія датычаць Беласточчыны.

Беларуская праблематыка ў працах камісіі займае пачэснае месца. Гэта абумоўлена, папершае, тым, што значную частку жыхароў Беласточчыны складаюць беларусы, а, падругое таксама і тым, што многія члены камісіі з'яўляюцца беларусазнаўцамі. Яны займаюцца беларускай праблематыкай у шырокім славяназнаўчым аспекце. Гутарка тут ідзе аб працаўніках аддзялення беларускай

Працяг на стар. 4

НАШЫМ ЧЫТАЧАМ І СІМПАТЫКАМ ШЛЕМ САРДЭЧНЫЯ СВЯТОЧНЫЯ ПАЖАДАННІ!

НІВА



## БГКТ ХРОНІКА

■ 7-га снежня адбыўся пленум гарадскога праўлення аддзела БГКТ у Беластоку, на якім былі разгледжаны наступныя справы: 1. Правядзенне справаздачна-выбарнай кампаніі ў гарадскім аддзеле БГКТ. У гэтай справе выступіў сакратар ГП БГКТ Янка Зенюк. У сувязі з тым, што ў Беластоку няма гурткоў БГКТ і што многа ёсць членаў, было пастаноўлена арганізаваць тры справаздачныя сходы, на якіх будуць таксама выбраны дэлегаты на справаздачна-выбарную канферэнцыю аддзела. 2. Зацвярджэнне справаздачнага даклада, які прадставіла сакратар праўлення аддзела Зося Стаськевіч. 3. Абмяркоўка напрамкаў працы клуба. Вёў пленум старшыня аддзела Іван Стрышко.

■ 11-га снежня гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку арганізаваў нараду студэнтаў, якія вучацца ў мясцовых вышэйшых установах і ў асноўным з'яўляюцца выхадцамі з беларускіх асяроддзяў паасобных паветаў. Пасля сардэчнай супольнай размовы студэнтаў з прадстаўнікамі Беларускага таварыства і абмену думак адносна ўдзелу іх у працах і мерапрыемствах аддзела было пастаноўлена, што раз у месяц будуць арганізоўвацца вечары для студэнтаў. Першая вечарына адбудзецца 15-га студзеня. Запланавана на 4-га студзеня ўрачыстае ўручэнне легітымацый БГКТ. Праграму вечароў апрацуе створаная на гэтым сходзе рада студэнтаў, у склад якой увайшлі: Ваня Кірызюк (старшыня), Яўгенія Ігнацюк, Вася Іванюк — студэнты філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку, Марыя Ліс, Зіна Пракапюк і Іван Якімец — студэнты Вышэйшай інжынерскай школы і Яўгенія Такарэўская — з Медыцынскай акадэміі. У гэтым сходзе ГП БГКТ прадстаўлялі Міхась Хмялеўскі, Мікалай Гайдук і Тэкля Вашчук, а гарадскі аддзел БГКТ Зося Стаськевіч і Анна Амбражэй. Сустрэча закончылася наведаннем залы выставак, у якой знаходзіцца выстаўка беларускай народнай вышыўкі.

■ Гурткі БГКТ і ЗМВ у Міклашах пад старшынствам Мікалая Гонты з'яўляюцца ініцыятарамі і арганізатарамі будовы вясковага дома культуры. Грамадскім чынам навезена 90 кубаметраў жвіру і каменя. Камітэт будовы сабраў ужо 10 тыс. зл. (мс)




# Перыяд Вялікага княства Літоўскага

## УСПАМІНЫ, ДЗЁННІКІ, ЗАПІСЫ — ЧАСТКА IV

Філон Кміта-Чарнабыльскі вядомы як аўтар «Одпісаў». Некаторыя з даследчыкаў называюць твор Чарнабыльскага «Допісамі». Да сёння «Допісы» поўнасцю не апублікаваны. Акадэмік Карскі, гаворыць, што 96 старонак рукапісу знаходзяцца ў Дэпартаменце Генеральнага штаба. Археалагічная камісія ў 1948 годзе з гэтага рукапісу надрукавала дваццаць «Допісаў». Апублікаваныя допісы атрымалі загаловак «Вестовые отписки Филона Кмиты-Чернобыльского польскому королю Генрыху и литовским радным панам о московских делах». «Допісы» былі апублікаваны таксама палякамі: у 1884 г. у II т. зборніка: «Źródła do dziejów polskich wydanych przez M. Malinowskiego i A. Przeździeckiego».

Польская версія адрозніваецца крыху ад рускай. Згэтуль некаторыя даследчыкі робяць вывад, што польская версія была зроблена з іншых чым руская крыніц.

Да сённяшняга дня «Допісы» поўнасцю не апублікаваны. Таму можам гаварыць аб змесце і форме тых «Допісаў», якія вядомы з друку.

«Допісы» напісаны ў форме інфармацыі або асабістых лістаў, Тэматычна «Допісы» адносяцца да сітуацыі ў Маскоўскай дзяржаве, да спраў, звязаных з Рэчыпаспалітай Польшчай, да праблем Вялікага княства Літоўскага. Не мала ў «Допісах» спраў асабістых аўтара, аднак амаль заўсёды справы гэтыя звязаны з тагачаснымі грамадскімі і палітычнымі падзеямі.

Праблематыка рускай дзяржавы ў творы Чарнабыльскага паяўляецца многа разоў. Аўтар закранае гэтую праблематыку ў двух аспектах. Па-першае, гаворыць аб падзеях і сітуацыі Маскоўскай дзяржавы. Па-другое, займаецца справамі, звязанымі з намерамі пасадзіць на польскі трон Грознага або яго сына.

Няма сумненняў, што адносіны Чарнабыльскага і да цара Івана Грознага і да Маскоўскай дзяржавы — адмоўныя. Пры гэтым, аднак, Чарнабыльскі бачыць некаторыя станоўчыя рысы ў характары і дзейнасці рускага цара. Беларускі аўтар лічыць Грознага чалавекам хітрым і разважлівым. Чалавекам, які ўмее дбаць пра інтарэсы сваёй дзяржавы. Некаторыя з інфармацый, звязаных з рускім царом, маюць выключна каларыстычны, высока мастацкі характар. Да такіх належыць пятая інфармацыя Кміты Чарнабыльскага. Інфармацыя гэтая выключна «малярская». Паказаны ў ёй прыём, які быў учынены Іванам Грозным у Крамлі паслу Перакопскага хана. Іван Грозны прыйшоў на гэты прыём з сынам. І цар, і яго сын былі апрануты ў баранія шкуры. Калі пасол перакопскіх татар пачаў гаварыць аб даніне з рускай дзяржавы, грозячы пры гэтым новым паходам на рускія землі, Іван Грозны сказаў, што ўсё, што меў у сваёй дзяржаве цэннае, перадаў ужо хану, адзінае, што ў яго засталося, дык гэта авечыя аўчыны. Гаворачы гэта, зняў аўчыну з сына і з сябе і перадаў іх татарскаму паслу. Навязваючы да пагрозы новым татарскім нашэсцем, Грозны перадаў паслу тапор, які за ўвесь час цырымоніі трымала перад ім служба. Тапор значыў гатоўнасць Рускай дзяржаве да новай вайны.

З лістаў і інфармацыі вынікае, што Чарнабыльскі не падтрымліваў ідэі асаджэння Івана Грознага або яго сына на польскім троне. Займаўся аднак перапіскай з Масквой у гэтай справе. Займаўся таму, што атрымліваў такі загад ад некаторых вяльмож Вялікага княства Літоўскага. Перыпетыі, якія выніклі з удзелу Чарнабыльскага ў гэтай перапісцы, нам ужо вядомыя. І таму, калі праз нейкі час падканцлер Вялікага княства Літоўскага зноў звярнуўся да Чарнабыльскага ў справе навязання кантактаў з Масквой, ён катэгарычна заявіў: «І кашы не хачу, і па ваду не пайду».

Не мала ў «Допісах» разважанняў аб абставінах у Рэчыпаспалітай Польшчы. Нягледзячы на тое, што сядзеў Чарнабыльскі на ўсходняй граніцы Вялікага княства Літоўскага і, здавалася б, не меў шырэйшых кантактаў з Польшчай, быў досыць добра азнаёмлены са спецыфікай польскага жыцця. Выразна нядобразычліва ставіўся Чарнабыльскі да польскага караля Генрыха Валуа, якому выразна Польшча не спадабалася і таму, пакінуўшы яе, паехаў у сваю Францыю. Чарнабыльскі не падзяляў думкі тых паноў, якія даказвалі, што Валуа вернецца ў Польшчу. Для характарыстыкі пастулка Валуа Чарнабыльскі ўжывае пагардлівых акрэсленняў: «Мы ад варот, а ён дыркаю вон».

Не мала разважанняў прысвячае Чарнабыльскі новаму польскаму бескаралеўю. Лічыць ён, што новым каралём не павінен быць чужаземец, бо француз Генрык Валуа даказаў, як мала чужаземец будзе цікавіцца інтарэсамі Польшчы. Выступае Чарнабыльскі і супраць думкі аб пакліканні на польскі трон прадстаўніка Вялікага княства Літоўскага. Па думцы Чарнабыльскага, ліцвін забудзе аб інтарэсах сваёй краіны і будзе старацца ва ўсім дагадзіць палякам: «Больш будзе жычлівы народу польскаму, чым свайму».

Трэцім комплексам тэматыкі «Допісаў» з'яўляюцца справы асабістыя Чарнабыльскага. Лісты з гэтай тэматыкай кіраваў Чарнабыльскі найчасцей да падканцлера Валовіча. Найбольшае месца ў гэтых лістах займае справа пастановы літоўскіх вяльмож у Рудніцы аб прыкліканні Чарнабыльскага да судовай адказнасці. Аб рэакцыі Чарнабыльскага на гэтую пастанову гаварылі мы ўжо папярэднім разам. Тут хочам толькі прыгадаць, што Чарнабыльскі закранае рад іншых спраў, між іншым, гаворыць аб сваім матэрыяльным убостве, прыпамінае свае заслугі, гаворыць аб сваёй гатоўнасці несці вайсковую службу, калі будзе такая патрэба.

Канчаючы інфармацыю аб «Допісах», варта звярнуць увагу на мову гэтага твора. Аўтар, несумненна, валодаў і дасканалай назіральнасцю, і веданнем народнай стылістыкі. Карыстаецца ён вялікай колькасцю прыказак і прымавак: «Калі тапіліся — тапор абяцалі, як выплылі, не далі тапарышча», «Апарыўшыся малаком, на ваду дзьмухай», «Баба на двое варажыла», і «Кашы не хачу, і па ваду не пайду».

Цэласць «Допісаў» — гэта цікавы арыгінальны помнік беларускай літаратуры. Трэба толькі шкадаваць, што да сёння помнік гэты поўнасцю не апублікаваны.

## ДВА НАЙЛЕПШЫЯ КЛУБЫ БЕЛЬСКАГА ПАВЕТУ

Найлепшым клубам у Бельскім павеце ў катэгорыі «без арганізатара культурна-асветнага жыцця» з'яўляецца клуб у Тапчэве. Заняў ён шостае месца ў ваяводскім спаборніцтве на найлепшы клуб. Добра тут ідзе праца з сельскагаспадарчай кніжкай. У вёсцы многа моладзі, якая актыўна ўключаецца ў клубнае жыццё.

У катэгорыі клубаў «з платным арганізатарам культурна - асветнага жыцця» найлепшым у Бельскім павеце за 1971 г. аказаўся клуб у Боцьках, які ў маштабе ваяводства заняў другое месца, Развіваецца тут вельмі шырокая і ўсебаковая культурна-асветная дзейнасць: гурткі рознага роду, праца з кніжкай, дыскусіі, сустрэчы.

Ад 1 студзеня новага года ў Боцьках паўстане першы ў Бельскім павеце грамадскі цэнтр культуры. (вл)

## ЛЮДЗІ БГКТ

## ІВАН ТРАХІМЧУК



Іван Трахімчук працуе настаўнікам ужо 21 год. У Шымках вучыў дзяцей 15 год і ўжо 6 год узначальвае школу ў Чарэўках у Беластоцкім павеце. У васьмікласнай школе вучыцца там 74 дзяцей. У памяшканні школы і каля яго ўсюды чысціня і парадак. У пасобных залах шмат кветак. З нагоды VI з'езду школа забавязалася зрабіць грамадскім чынам 50 м ходніка. Гэтае абавязацельства ўжо выканана. Іван Трахімчук з'яўляецца актыўным членам праўлення беластоцкага аддзела БГКТ.

*Тэкст і фота М. Хмялеўскі*

## Усеагульная самаабарона на Гайнаўшчыне

Павятовы вайсковы штаб у Гайнаўцы супольна з павятовымі, грамадскімі і фабрычнымі камітэтамі абароны правёў у 1971 годзе многа мерапрыемстваў па ўсеагульнай самаабароне, як напрыклад, абучэнне ўсеагульнай самаабароне інструктараў, служб абеззаражвання і дэзактывацыі, абучэнне сакратароў грамадскіх бюро, арганізацыя згадуй-згадуляў у спалучэнні з мастацкімі часткамі, спаборніцтваў па абароне так званых тэрэновых аддзяленняў самаабароны (ТОС) і фабрычных аддзяленняў самаабароны (ЗОС), масавае абучэнне людзей, трывожныя трэніроўкі і г.д.

У бягучым годзе згадуй-згадулі былі арганізаваны ў Гайнаўцы, Новаберазове і Кляшчэлях. У Новаберазове згадуй-згадуля арганізавалася падчас традыцыйных дажынак. У тым самым часе адбыліся дадаткова спаборніцтвы членаў ТОС з 7 грамадаў на кубак начальніка павятовага штаба.

Практыкаванні аддзяленняў самаабароны паспяхова прайшлі, між іншым, у Клейніках, Нарве, Нараўцы, на чыгуначных вакзалах Чарэмха і Гайнаўка, на Гайнаўскім прадпрыемстве драўніннай прамысловасці, ПЗГС, на пошце, на Гайнаўскім прадпрыемстве лясных машын і г.д. Масавае абучэнне прайшло 1610 асоб на 33 курсах. Да канца бягучага года адбудзецца яшчэ 16 такіх курсаў у раёне грамад Чыжы, Новаберазова і Нараўка. Будзе яно спалучанае з дэманстрацыяй кінафільмаў на тэму ПС. Трывожныя зборы і трэніроўкі адбыліся ў дзесяці ТОС-ах. Варта адзначыць, што ў спаборніцтве перамог ТОС у Белавежы, а затым па чарзе ТОС-ы Чарэмха, Дубічы Царкоўныя, Арэшкава і Чыжы. (яц)

10-гектаравая гаспадарка, ды асталіся жонка і сын — здаровы, прыгожы кавалер. «Дома» ён рэдка калі бывае. Найчасцей ходзіць па людзях. Асабліва ахвотна наймаецца да малацьбы. Чытаць ён не навучыўся, але тэхнічную «смыкалку» мае. І высока цэніць яе. Ніжэй ста залатых за дзёўку да працы не наймаецца. *«Няма дурных»*, — кажа.

Год таму назад пад цяжарам снегу завалілася страха над гумном. Грыгарукі абсталяваліся ў прыбудоўцы, а жывёліна — кароўка і конь — вымушаны былі захапляцца зоркамі на зімовым марозным небе.

— Навошта табе конь? Навошта ты яго мучыш? — пыталіся людзі, а Сяргей адказваў ім:

— Для прыліку, бо як гаспадару без каня?!

Дык літаваліся суседзі над Грыгарукамі і над іх жывёлінай, адным і другім штораз падкідалі нейкую страву, А добры, вопытны гаспадар з суседняй вёскі Гуковічы, Мікалай Раманюк сказаў мне адкрыта:

— Раней я сам падкідаў ім то крыху бульбы, то збожжа, то сена для жывёліны. У гэтым годзе з кормам у нас скупавата, наўрад ці знойдуцца «добрыя дзядзькі», *ды для якой ідэі мы маем карміць гультаёў і дармаедаў?*

З гэтымі пытаннямі адпраўляюся ў павет. З расказаў старшыні Клейніцкай грамады ўжо ведаю, што *зусім нядаўна прадстаўнікі павятовай рады ў Гайнаўцы прапанавалі Грыгарукам перасяліцца ў невялічкую хату, якая стаіць пустая па-суседску, у той жа вёсцы Ляшчыны.* Завезлі нават у гэтую хатку два жалезныя ложкі разам з пасцеллю, вядро, кубкі, кухоннае абсталяванне. А Грыгарукі нават адной ночы не захацелі там начаваць.

— Чаму? — пытаю Купрыяніху.

— А чаго мы туды пойдзем?! — крычыць яна мне ў адказ. — Гэта не маё! У Бельску жыве ўласніца гэтай хаты. Яна можа прыйсці ноччу і задушыць мяне.

— Гэтая хата ўжо «дзяржаўная», — паясняе старшыня.

— Але сын казаў, — тлумачыць Купрыяніха, — што комін там развалены. Дык яшчэ прыдушыць. Не пайду.

— А тут жа вы замерзнеце, — гавару ў адчаі.

— Слава богу, неяк ужо мінулую зіму пережыла.

Не, не дагаваруся я з гэтай жанчынай. *Цяжка зразумець чалавека, які палюбіў бяду і не хоча нават пальцам кіўнуць, каб з гэтай бяды вылезці.*

Намеснік старшыні прэзідыума павятовай рады ў Гайнаўцы, гаворыць мне:

— Я там быў асабіста пару дзён таму назад і ўсё бачыў. Робім, што можам. Яшчэ на зіму хочам іх памясціць у гэтай старэнькай хатцы. Калі гэта нам не ўдасца, маем намер падшукаць у Гайнаўцы нейкую буду, прыдатную на часовае жыллё, і завезці яе ў Ляшчыны, каб гэтыя Грыгарукі мелі на зіму прытулак.

Так, з боку ўлад няма тут так званай «злой волі». Толькі ці сродкі, якія яны прапануюць, гарантуюць поспех? Астаецца ж яшчэ зямля, даволі вялікая гаспадарка, якую цяпер па-партызанску апрацоўваюць некаторыя адважнейшыя суседзі. Зямля, як вядома, ёсць на тое, каб давала ўраджай.

*ВІКТАР РУДЧЫК*

## ФРОНТАМ ДА ВЁСКІ




Закон з 26 кастрычніка 1971 г., змяняючы цывільны кодэкс, аблегчыў умовы, у якіх можна набыць зямлю. Дагэтуль нельга было набыць такую колькасць зямлі, якая разам з той зямлёй, якую мае набыўца, стварала гаспадарку звыш 15 га, а калі па характару ўжыткаў была гэта гаспадарка, прызначаная на жывёлагадоўлю, — 20 га. Калі праз набыццё зямлі паўставала гаспадарка большая ад гэтых норм, дзяржава мела права забраць надвышку бясплатна.

У новым законе вышэй пададзеныя нормы абавязваюць далей. Аднак улады могуць у выпадках грамадска або гаспадарча абгрунтаваных дазволіць на набыццё большага ад гэтых норм абшару.

Надалей нельга прадаваць частку гаспадаркі, калі б у выніку гэтага мелі паўстаць гаспадаркі ніжэй асноўнай нормы, якую ўстановіць асобным распараджэннем Рада Міністраў.

Дагэтуль набыць зямлю мог толькі той, хто сам мае зямлі прынамсі ў мінімальнай норме, якая на абшары нашага ваяводства складала 4 га. Значыць, той, хто сам не меў прынамсі 4 га, дакупіць зямлі не мог. Па новаму закону гэтага абмежавання няма.

Гаспадарку ў цэласці прадаць можна без перашкод. Новы закон прадбачыць пры гэтым, што прадавец можа сабе пакінуць сядзібу з участкам пры доме. Гэта будзе мець значэнне для таго, хто не можа апрацоўваць гаспадарку і ахвотна яе прадаў бы, але не хоча пазбыцца сядзібы, часта таму, што не мае дзе дзецца і не хоча пражываць у чужым кутку.

Асноўная норма дагэтуль гэта 8 га. Распараджэннем Рады Міністраў яна будзе ў бліжэйшы час зменена. Той, хто мае зямлі звыш асноўнай нормы, можа надвышку прадаць. Калі гэта надвышка не менш асноўнай нормы, г.зн., прынамсі 8 га, то пры продажы няма ніякіх абмежаванняў. Калі гэта надвышка менш асноўнай нормы, але можа быць гаспадаркай, здольнай да таварнай прадукцыі, або разам з зямлёй набыўцы адпавядае гэтым умовам, яна можа быць таксама прададзена незалежна ад яе абшару. Якую гаспадарку можна лічыць здольнай да таварнай прадукцыі — азначыць распараджэнне Рады Міністраў.

Уласнік, абшар гаспадаркі якога меншы, чым асноўная норма, можа без перашкод прадаць не толькі цэлую гаспадарку, але і яе частку. Вымагаецца пры гэтым толькі, каб прададзеная частка ці сама, ці разам з зямлёй набыўцы складала гаспадарку, здатную да таварнай вытворчасці.

Калі гаспадарка прадаўца выказвае нізкі ўзровень прадукцыі, або пагражае ёй абніжэнне гэтага ўзроўню, незалежна ад абшару гэтай гаспадаркі, можа быць прададзена любая яго частка. І тут вымагаецца толькі, каб прададзеная частка сама, або разам з зямлёй, якую мае набыўца, стварала гаспадарку, прыдатную да таварнай прадукцыі.

*В. Склубоўскі*

 

## ЯК ГЛЯДЗЕЦЬ САВЕЦКУЮ ТЭЛЕВІЗІЮ?

Жыхары паветаў: Дуброўскага, Сакольскага і часткова Беластоцкага разам з горадам Беластокам маюць магчымасць карыстацца праграмай, якую рэтранслірує гродзенская тэлевізійная станцыя. Жыхарам Гайнаўскага і Сямяцiцкага паветаў даступны перадачы брэсцкага тэлевізійнага цэнтра.

Трэба толькі ведаць, што Гродна працуе на 3-ім канале, а Брэст — на 7-ым. Не хопіць аднак наставіць тэлевізар на адпаведны канал. Трэба пабудаваць спецыяльную антэну — асобна на Брэст і асобна на Гродна. Мы звярнуліся за паясненнямі ў Міністэрства сувязі БССР. Галоўны інжынер радыёўпраўлення В. Глазуноў прыслаў нам усе неабходныя размеры для антэн на Гродна і Брэст, узятыя з афіцыйнага зборніка, які падрыхтаваў дзяржаўны навукова-даследчы інстытут Міністэрства сувязі СССР у 1965 годзе. Гэтыя размеры (у сантыметрах) падаем на рысунку антэны. Антэна на Гродна сваімі размерамі шматзначна перавышае антэну на Брэст.

Размеры антэны на Брэст падаюцца на рысунку ў дужках. Антэна на Гродна складаецца з чатырох элементаў (прутоў), а антэна на Брэст — з 5 элементаў.

З чаго будаваць антэны?

Найлепш з алюмініевых рурак, дыяметр (сьрэдніца) якіх ад 0,5 см да 2,5 см. Могуць быць рурки медныя, мосенжавыя, а нават жалезныя. Урэшце, для пабудовы антэны, асабліва на Брэст, можна выкарыстаць ізаляцыйныя руркі, якія ўжываюцца ў хатняй электрычнай інсталяцыі (т.зв. руркі Бергмана). Каб не паламаў іх вецер або вароны, якія любяць сядаць на антэны, трэба ўзмоцніць іх драўлянымі палкамі. Антэну можна зрабіць з алюмініевых, медных, мосенжавых або жалезных прутоў. Можна таксама скарыстаць з жалезнай ленты на абручы (т.зв. бяднаркі) таўшчынёю ў 3—5 мм. Антэну на Гродна, каб не гнулася, прыдзецца ўзмоцніць спецыяльнай драўлянай канструкцыяй. Проста трэба з драўляных прутоў зрабіць антэну і на яе элементы набіць бляху або гэтую бяднарку. Таксама робім, калі ў распараджэнні ёсць надта ж тонкія металічныя пруты ці руркі. Для антэны на Гродна трэба каля васьмі метраў рурак або прутоў, а на Брэст — каля чатырох метраў. Папярочнік і падпорку найлепш зрабіць з жалезнай рурки таўшчынёю ў 3—5 см. Тое самае адносіцца і да мачты. Можа аднак адно і другое быць з сухога цвёрдага дрэва. Усе элементы антэны неабходна pамаляваць, каб забяспечыць ад іржаўчыны і гніцця. Кабель купляем плоскі, двухжыльны, сіметрычны ў ізаляцыі з пластмасы. Ён танны (3,60 зл./м) і якраз дастасаваны да польскіх тэлевізараў і да гэтых антэн, якія вам прапануем. Хто мае савецкі або нямецкі тэлевізар, павінен папрасіць радыётэхніка, каб падключыў антэну, бо ў тых выпадках трэба рабіць адпаведнае прыстасаванне антэны. Антэны неабходна ўзямліць, каб забяспечыцца перад громам.

Жадаем добрага прыёму. Пішыце да нас, як удалася вам антэна, з чаго яе зрабілі, які ў вас прыём савецкіх станцый.

*Нейтрына*

## КУТОК ГАСПАДЫНІ
## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### ПАСВЯТОЧНЫЯ ПАТРАВЫ

Кожная гаспадыня перад святам хвалюецца: ці хаця хопіць яды для сябе і гасцей. Купляюць усе ўсё, і мы, нават няхочучы, часта трапляем у вір непатрэбных пакупак. Яды робім рознай і шмат, а пасля застаюцца добрыя рэшткі гэтай яды, якімі пагарджаюць усе, бо мяса абрыдла.

Сёння мы дамо вам пару парад, як гэтыя паслясвяточныя рэшткі можна рацыянальна выкарыстаць.

### БІГОС

Для яго нам трэба: 1 кг кіслай капусты, каля паўкілаграма розных рэштак мяса, 1/2 кг звычайнай кілбасы, 1/4 кг капчонай трудзінкі (бочку), пару сушаных грыбкоў, шклянка салодкага чырвонага віна, ну і соль, перац.

Калі капуста занадта кіслая, трэба яе лёгка перапаласкаць у халоднай вадзе, а пасля ўліць у яе 2 шклянкі вады, улажыць абпаласканы бочак і грыбы, ды варыць 15 мінут не прыкрываючы. Пасля тушыць капусту пад крышкай. Праз 30 мінут дадаць нарэзаныя рэшткі мяса (могуць тут быць абрэзкі шынкі, смажанага мяса разам з соусам, зайца або хатняй птушкі, а нават і рэшткі варанага мяса). Дадаць таксама нарэзаную скрылёчкамі кілбасу, уліць віно, дадаць солі, перцу і тушыць на слабым агні каля гадзіны. Добра было б яшчэ перад заканчэннем тушэння дадаць лыжку-дзве павідла са сліў ці галярэткі (жэле) з парэчак. Мукой лепш бігосу не прыпраўляць.

### ЗАПЯКАНКА

Для яе патрэбна: 1 кг бульбы, розныя рэшткі тлустага мяса, 2 вялікія цыбуліны, лыжка тлушчу, соль, перац, шклянка салодкай смятанкі, 2 лыжкі таматнай пасты.

Бульбу абабраць, абпаласкаць, нарэзаць тоненькімі скрылёчкамі. Класці яе ў каструлю, солячы і перакладаючы пластамі мяса, даволі дробна нарэзанага і падсмажанага з цыбуляй. Зверху заліць усё салодкай смятанкай, змешанай з таматнай пастай, соллю і перцам. Запякаць у гарачай духоўцы мінут 45.

### ШПАГЕЦЦІ З БІГОСАМ

Калі вы на свята ўжо рабілі бігос, дык варта яго неяк адмяніць. Можна, напрыклад, узяць пачку макарону-шпагецці (1/2 кг), паламаць яго на 10-сантыметравыя кавалкі і зварыць у вялікай колькасці пасоленай вады. Яшчэ не зусім мяккі макарон адцадзіць, дакладна асушаючы на сіце. Вымяшаць яго з шклянкай памідорнага соусу і з рэшткамі адагрэтага бігосу. Палажыць у каструлю, змазаную тлушчам і абсыпаную змеленымі сухарамі, уставіць на паўгадзіны ў духоўку.

### ЯЕШНЯ З ЗЯЛЁНЫМ ГАРОШКАМ

Калі вы рабілі на свята салаты, дык напэўна не выкарысталі ўсяго зялёнага гарошку, і нешта там на дне банкі яшчэ засталося. Дык варта зрабіць з ім нештодзённую яешню. Яечкі збіць, пасаліць, вымяшаць з абсушаным зялёным гарошкам. Тлушч разагрэць на патэльні, уліць яечкі і падсмажыць яешню, асцярожна памешваючы.

*Гаспадыня*

## БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ

У кнігарні савецкіх выдавецтваў у Бельску Падляшскім можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

«Беларусь». Фотаальбом, Мінск 1967, цана 7 зл. 80 гр.

У альбоме змешчаны здымкі, якія паказваюць розныя галіны гаспадарчага і культурнага жыцця Савецкай Беларусі.

Асабліва рэкамендуем гэтае выданне настаўнікам беларускай мовы як карысны наглядны дапаможнік пры вывучэнні тэм аб жыцці ў БССР. Добра было б, каб альбом знайшоўся і ў грамадскіх бібліятэках.

Багдановіч Максім, «Маладзік», Мінск 1968, 292 стар., цана 7 зл. 50 гр.

У зборнік увайшлі лепшыя лірычныя творы аднаго з найбольш таленавітых беларускіх паэтаў дарэвалюцыйнага перыяду нашай літаратуры.

Рэкамендуем усім любіцелям беларускай паэзіі. У школьных і грамадскіх бібліятэках гэты зборнік павінен быць абавязковай пазіцыяй.

Казкі пра жывёл і чарадзейныя казкі, Мінск 1971, стар. 496, цана 16 зл. 40 гр.

Гэта адзін з першых тамоў звыш дваццацітамовага цыкла беларускага фальклору, які пачаў выдаваць Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР. У томе змешчана 181 казка.

Рэкамендуем набыць зараз жа гэты том і пільна сачыць за наступнымі тамамі гэтага манументальнага, першага ў гісторыі зводнага выдання твораў багатай вуснай народнай творчасці беларускага народа. Асабліва ж ён неабходны настаўнікам беларускай мовы, школам і грамадскім бібліятэкам.

Панчанка Пімен, «Збор твораў у двух тамах», Мінск 1967, цана абодвух тамоў 31 зл.

Пімен Панчанка — сучасны беларускі паэт сярэдняга пакалення. У беларускай літаратуры даваеннага і пасляваеннага часу займае адно з вядучых месц. Гэты збор твораў змяшчае ўсё лепшае, што было напісана паэтам у мінулым часе, а таксама яго новыя паэтычныя здабыткі.

Рэкамендуем усім любіцелям беларускай паэзіі, школьным і грамадскім бібліятэкам.

Ярош Міхаіл Рыгоравіч, «Янка Купала і беларуская паэзія», Мінск 1971, 256 стар., цана 12 зл. 60 гр.

Гэта літаратуразнаўчае даследаванне традыцыі і наватарства ў беларускай паэзіі ад даўнейшых часоў да нашых дзён. Цэнтральнае месца ў ім адведзена нашаму песняру Янку Купалу.

Рэкамендуем настаўнікам беларускай мовы.

Звонак Алесь, «Россып», Мінск 1967, стар. 352, цана 12 зл. 30 гр.

Зборнік аднаго са старэйшых беларускіх паэтаў. У ім мы знойдзем лепшыя творы з багатай паэтычнай творчасці А. Звонака і яго творы з апошняга часу.

Заахвочваем набыць яго ўсім любіцелям беларускай паэзіі.

Шахавец Уладзімір, «Аповесці», Мінск 1970, стар. 528, цана 9 зл. 30 гр.

Том добрай прозы беларускага пісьменніка старэйшага пакалення. У кнізе змешчаны аповесці «Насустрач» і «Чорны снег» — аб гераічнай барацьбе беларускіх партызан, «Месца ў жыцці» — аб сучаснай калгаснай вёсцы, «Пасля вяселля» — аб стаўленні маладой рабочай сям'і.

Рэкамендуем і нашым чытачам, і ў бібліятэкі, асабліва грамадскія.

## АПЕРАЦЫЯ „PAPER CLIPS"

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары).*

Ужо дзесяты год запар ЗША спальвае напальмам цэлыя раёны Паўднёвага В'етнама. І ў гэтай бруднай вайне амерыканскі імперыялізм дзейнічае разам з нацысцкімі забойцамі.

Схаваўшы ад суда народаў гітлераўскіх забойцаў у белых халатах, генералы Пентагона прадставілі ім усе магчымасці для працягвання злачынных «навуковых доследаў».

«Высокакваліфікаваныя нямецкія спецыялісты, — сведчыць французская газета «Ліберасьён» — працуючы разам з амерыканскімі вучонымі, стварылі новую сакрэтную зброю, атручвальны эфект якой перавышае ўсё, што было вядома ў гэтых адносінах да сённяшняга дня. Нямецкія хімікі допушчаны ў самыя сакрэтныя амерыканскія лабараторыі, а таксама да самых сакрэтных дакументаў Пентагона, што датычаць вырабу і выкарыстання хімічнай зброі».

У аперацыі «Пейпер кліпс» аказаўся злавесны працяг. І зноў адной з галоўных дзеючых фігур яе стаў Герхард Шрадэр. Ён па-ранейшаму ўзначальвае хімічны аддзел фірмы «Байер АГ». Афіцыйна гэта ўстанова называецца «лабараторыяй па ахове раслін». Але за гэтай знешне бяскрыўднай шыльдай кіпіць д'ябальская работа. Тут працягвае свае «навуковыя доследы» доктар Вольфганг Вірт, стваральнік смяротнага газу «табун». Тут працуе і ваенны злачынец Эрых Шуман. У гады фашызму ў чыне генерал-маёра ён узначальваў «аддзел навукі» пры вярхоўным камандаванні вермахта, кантраляваў усе работы, звязаныя з вырабам бактэрыялагічнай і хімічнай зброі. Па загаду Шумана эсэсаўцы праводзілі масавыя выпрабаванні хваробатворчых мікробаў і ядавітых газаў на вязнях Бухенвальда.

Два іншыя вядучыя эксперты фірмы «Байер АГ» у галіне хімічнай вайны — Вальтэр і Герхард Гехт. Абодва яны былі адказнымі супрацоўнікамі і асістэнтамі Шрадэра пры Гітлеры, абодва займаюць тую ж пасаду і цяпер.

Словам, усё ідзе, як «у стары добры час». Быццам і не было Асвенціма, Бухенвальда, не існавала газавых камер, у якіх загінулі сотні тысяч людзей. Многім з іх не споўнілася нават шаснаццаці. А вось сам доктар Шрадэр ужо даўно адсвяткаваў сваё шасцідзесяцігоддзе. Здавалася б, час ужо вырошчваць цюльпаны або ружы. Гэта ж так модна цяпер сярод старых фашысцкіх катаў. Але «бацька нервова-паралітычных газаў» не спяшаецца на адпачынак. Ён стварае новыя віды зброі «ціхай смерці». У мінулым годзе адно з атрутных рэчываў, распрацаваных пад яго кіраўніцтвам, было запатэнтавана ў ЗША.

Больш таго, стала вядома, што Шрадэр, нягледзячы на свае старэчыя гады, ужо двойчы пабываў у Паўднёвым В'етнаме. Вярнуўшыся ў ФРГ, ён далажыў дырэкцыі фірмы «Байер»: «Выпрабаванні праходзяць выдатна!»

Які характар носяць «навуковыя» выпрабаванні Герхарда Шрадэра, здагадацца няцяжка. Дастаткова прывесці такія лічбы. На працягу васьмі гадоў (з канца 1961 г. па кастрычнік 1969 г.) амерыканскія інтэрвенты толькі ў Паўднёвым В'етнаме атруцілі ядахімікатамі 13 тысяч квадратных кіламетраў пасяўных плошчаў, што складае 43 працэнты ўсіх апрацоўваемых зямель краіны. Акрамя таго, авіяцыяй ЗША было падвергнута хімічнай «апрацоўцы» 25 тысяч квадратных кіламетраў лясоў і каўчуковых плантацый. У выніку такіх аперацый «па ўціхамірванню» звыш 1.300 тысяч в'етнамскіх сялян былі атручаны, многія з іх памёрлі ў цяжкіх пакутах.

Жудасныя размеры злачынстваў атручвальнікаў з Пентагона сёння прызнаюць нават самі амерыканцы. Так, паводле сведчання амерыканскай Асацыяцыі садзейнічання развіццю навукі, больш чым адна сёмая частка тэрыторыі Паўднёвага В'етнама ператворана авіяцыяй ЗША ў пустыню. Ад дэльты ракі Меконг да Цэнтральнага нагор'я, указваецца ў апублікаваным камісіяй дакладзе, велізарныя прасторы краіны нагадваюць цяпер мёртвы месяцавы пейзаж. Вучоныя падлічылі, што неабходна прынамсі дзесяць гадоў для таго, каб на гэтай атручанай Пентагонам зямлі зноў маглі нармальна расці лясы і каўчуканосныя дрэвы.

Пад націскам сусветнай грамадскасці восенню 1969 года прэзідэнт Ніксан урачыста заявіў, што Злучаныя Штаты



 

